ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS. P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXV, № 214 New York, February — Люты 1975 Vol. XXV, № 214



**Бурмістр Чыкага Рычард Дэйлі (першы справа) пры беларускім стоішчы зь ягонымі ўдзельнікамі на Міжнароднай Выстаўцы ў Чыкага (глядзі артыкул на 5-ай бачыне „Беларусы на Выстаўцы ў Чыкага").**

## АДЫЙШОЎ МАЙСТРА МАСТАЦКАГА НАРЫСУ




Вечным ходам жыцьця сьмерць бязьлітасна забірае й найбольш патрэбных. Гэта нам прыпамінае адыход зь ліку жывых, хоць і на 70-м ужо годзе жыцьця, ды на ўзвышшы сілаў і творчае актыўнасьці Юркі Віцьбіча, выдатнага пісьменьніка-ўзвышэнца, таленавітага журналістага, вялікага патрыёты. Адыйшоў знакаміты майстра апавяданьня, мастацкага нарысу, палітычнага фэльетону, які ўвесь свой талент і творчыя сілы аддаваў толькі роднаму краю й народу.

Юрка Віцьбіч, які друкаваўся шмат і пад прозьвішчам Юры Стукаліч, нарадзіўся 15 чырвеня 1905 году ў Вяліжы. Сярэднюю асьвету здабываў ён у гімназіі, пасьля-ж вучыўся ў настаўніцкім тэхнікуме. Пісаў ад юнацкіх ужо гадоў. Ды за пачатак літаратурнае сваe творчасьці ўважаў ён надрукаванае ў 1929 годзе ў часапісе „Ўзвышша" апавяданьне „Млынарова рука". З удалым творам прывітаў тады яго лістоўна ведамы ўзвышэнскі пісьменьнік Кузьма Чорны. Маладому аўтару гэты ліст, як ён казаў, быў раўназначным з выстаўленьнем „дыплёму на годнасьць пісьменьніка".

Творы Юркі Віцьбіча, — нарысы, апавяданьні, аповесьці, — ад гэтага часу друкуюцца ў розных пэрыядычных выданьнях, а ў гэтым ліку і ў часапісах літаратурных — „Узвышшы", „Полымі", „Маладняку". Важнейшыя зь іх, гэта апавяданьні „Альдэбаран", „Адоніс", „Усьмешка грэнадзіра Дзюкло", „Грыміць Перакагрыж", „Ян Непамуцэн", „Рэкрут імпэратара Паўлы", аповесьці — „Лшона Габоа Біўрушалайм", „Арцыбіскуп і сьмерд", „Ціхая Руба", „Мартын Путра". Асобнымі выданьнямі ў 30-х гадох выйшлі два зборнікі апавяданьняў. Дзьве кнігі іншыя ў друк не прапусьціла партыйная цэнзура за іхны патрыятычны „нацдэмаўскі дух".

У гадох крывавага партыйнага тэрору, калі ў беларускай рэспубліцы праводзіўся безаглядны татальны разгром беларускае якраз культуры, калі арыштоўваліся, дэпартаваліся ды нішчыліся масава беларускія навукоўцы, мастакі, пісьменьнікі, войструю атаку партыя павяла й супраць Юркі Віцьбіча. Гранілі яго за ідэялізацыю беларускага мінулага, за патрыятычны пафас, за „архаічнасьць" ягонае беларускае мовы, за выяўленую пашану да рэлігіі й царквы. З даручэньня партыйных ворганаў палітычнага тэрору нападкі ў друку супраць пісьменьніка вялі тады Андрэй Аляксандровіч, Аркадзь Куляшоў, Ізі Харык, Міхась Клімковіч, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка.

У гады вайны, пасьля разгрому Гітлерам савецкіх арміяў ды ўцёкаў зь беларускае зямлі бальшавікоў, Юрка Віцьбіч адразу бярэцца за пяро, каб пісаць урэшце без кантролі ды шантажных пагрозаў партыйнае цэнзуры. Друкуецца ён тады ў розных беларускіх часапісах. Выходзяць з друку ў часе вайны й два зборнічкі ягоных нарысаў-апавяданьняў — „Вяліскія паўстанцы" ды „Нацыянальныя сьвятыні".

І ў лягерах для палітычных уцекачоў у Нямеччыне, у першыя паваенныя ўжо месяцы, Юрка Віцьбіч быў сярод тых першых, што ўзяліся за наладжаньне беларускае выдавецкае справы на чужыне. Рэдагуе ды выдае ён рэлігійна-грамадзкі часапіс „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі". Гэтым самым часам зь ягонае ініцыятывы й ягонымі захадамі засноўваецца літаратурнае згуртаваньне „Шыпшына" ды пад ягонай рэдакцыяй пачынае выходзіць аднайменны літаратурна-грамадзкі часапіс, сем нумароў якога выйшла ў Нямеччыне, два-ж апошнія ў ЗША.

Зь пераездам да ЗША ўвесь вольны ад заработнае працы час Юрка Віцьбіч аддае літаратурна-журналістычнай дзейнасьці. Друкуецца ён тады найбольш у часапісах „Бацькаўшчына" ды „Беларус", а таксама ў нюёрскім расейскім штодзёньніку. Асабліва шмат стаў ён пісаць і для друку ў газэтах, і для радыёвых перадачаў, пасьля таго, як гадоў дзесяць таму дзеля хваробы перайшоў на пэньсію.

Хоць у першыя паваенныя гады, падчас лягернага бытаваньня, Юрка Віцьбіч і быў увязаны ў груповыя спрэчкі, ды хутка ад іх ён адыйшоў, адмежаваўся, як ад непрадуктыўнага марнаваньня сілаў, дарагога часу й шкоднага нацыянальна самаедзтва. У сваёй пазьнейшай дзейнасьці пісьменьнік узьняўся над арганізацыйнымі й груповымі падзеламі ды перагародкамі, не зьвяртаў на іх увагі, ігнараваў іх. Усе свае сілы аддаваў ён толькі справе, для якое ідэйны палітычны эмігрант знайходзіцца на чужыне — абароне інтарэсаў свайго народу.

Творчая дзейнасьць Юркі Віцьбіча выяўлялася ў двух галоўна кірунках — мастацкае прозы ды ня менш мастацкае публіцыстыкі. Спачатку пісьменьнік аддаваў больш увагі апавяданьням і аповесьцям, пазьней-жа, ад гадоў ужо 25-ці перайшоў блізу вылучна на публіцыстыку — пісаў артыкулы, нарысы, фэльетоны. І публіцыстычныя творы Юркі Віцьбіча адзначаюцца высокім мастацкім узроўнем. Прыкоўваюць яны чытача майстэрствам арыгінальнага стылю пісьменьніка, эмацыянальным заўсёды трактаваньнем сюжэту, экспрэсыйнаю, плякатнае яскравасьці, вобразнасьцяй.

Юрка Віцьбіч быў і пісьменьнікам, і публіцыстым вельмі пладавітым. У ягонай спадчыне колькідзесят апавяданьняў і аповесьцяў, колькісот нарысаў, артыкулаў, фэльетонаў, ды вялікі лік палемічных зацемак і лістоў. Сюжэтна творчасьць пісьменьніка мела вельмі шырокі засяг і ў часе, і ў прасторы. Кранаў ён вельмі розныя справы й пытаньні мінулага й сучаснага свайго народу, яго дагісторыю й археалёгію, пару гістарычную й падзеі нашых дзён.

Ахопліваў пісьменьнік і ўсю тэрыторыю роднага краю. Ня было бадай кутка беларускай зямлі, які-б застаўся паза творчай ягонай увагай. Ён шырака выкарыстоўваў у сваіх артыкулах ды нарысах і навуковую літаратуру, і народны фальклёр — переказы й лягенды пра волатаў і іх магілы, пра старавечныя курганы, пра пушчы, рэкі, азёры, цэрквы, замкі, месты, мястэчкі й сёлы Беларусі.

Уражала, што артыкулы й нарысы Юркі Віцьбіча ахоплівалі вялізарны фактаграфічны матарыял. Дзівіла гэта таму, што 25 апошніх гадоў пісьменьнік жыў воддаль вялікіх гарадзкіх цэнтраў і пад бокам ня меў большых бібліятэкаў, куды мог-бы зьвяртацца па патрэбныя дадзеныя. Абапіраўся блізу вылучна на свой толькі багаты адпаведнай літаратурай кнігазбор і на сваю памяць.

Важнаю нацыянальна дзейнасьцяй Юркі Віцьбіча пасьля пераезду да ЗША было сыстэматычнае друкаваньне нарысаў і артыкулаў на беларускія тэмы ў ньюёрскім штодзёньніку „Новое Русское Слово". Газэту гэтую, як ведама, чытаюць ня толькі Расейцы, але й іншыя эмігранты краёў усходу Эўропы, што знаюць расейскую мову, у гэтым ліку й шмат Беларусаў, асабліва із старой эміграцыі. Вось на бачынах гэтага штодзёньніка Юрка Віцьбіч 25 гадоў стаяў зыркa на варце беларускае нацыянальнае справы, быў быццам яе ганаровым прадстаўніком-амбасадарам перад шматнацыянальным форумам чытачоў газэты.

За 25 гадоў у расейскім штодзёньніку пісьменьнік пад прозьвішчам Юры Стукаліч надрукаваў больш 200 нарысаў, артыкулаў, фэльетонаў, палемічных зацемак і лістоў. І блізу ўсе яны былі напісаныя на тэмы й пытаньні зь беларускае гісторыі, краязнаўства, культуры, сучаснага вызвольнага змаганьня. Ягоныя патрыятычныя выступы ў газэце выклікалі ціраз войструю рэакцыю з боку чорнасоценна-вялікадзяржаўна настроеных яе чытачоў. На сабе адчулі яны палемічную вайстрыню пяра пісьменьніка, калі ішло пра абарону праўды ды нацыянальных інтарэсаў беларускага народу.

Накіраваная супроць усіх ды ўсякіх акупантаў беларускае зямлі ды ворагаў беларускага народу публіцыстычная дзейнасьць Юркі Віцьбіча выклікала, зразумела, асабліва войструю рэакцыю ды гвалтоўныя на яго нападкі ў друку БССР. І ў менскай партыйнай прэсе, і ў савецкіх выданьнях для замежжа, і па радыё, на каманду маскоўскіх каляніяльных адміністратараў рэспублікі супроць Юркі Віцьбіча ўзьнімаўся ціраз цэлы гармідар савецкіх казённых пісакаў. З гэтага ён заўсёды цешыўся, бо гэта было довадам, што накіраваныя супроць прыгнятальнікаў-русыфікатараў народу ўдары трапляюць у мэту, б'юць па балючых іх мясцох.

Хоць гады былі ўжо й не маладыя, хоць дзеля недамогі крывязвароту ног пісьменьнік ад даўжэйшага часу рэдка выходзіў з дому, гэта яму аднак не перашкаджала весьці пісьменьніцкую працу да апошніх тыдняў жыцьця ды ўтрымліваць шырокае ліставаньне з суродзічамі.

Калі ў лістападзе мінулага году сілы сэрца ўрэшце надарваліся, ды ў вельмі цяжкім стане давялося зьлегчы на колькі тыдняў у шпіталь, Юрка Віцьбіч сьведамы быў таго, што ўжо ня шмат дадзена яму часу для далейшае працы пяром. Сьмерці ён не баяўся, хоць жыцьцё заўсёды любіў. Блізкі да яе ціраз ён быў яшчэ ў юнацтве, калі браў удзел у змаганьні з бальшавіцкімі бандамі.

Шкадаваў толькі, што абарвацца давядзецца тую працу, якой аддаваў увесь свой час і сілы, якую любіў. Шкадаваў, што застаецца столькі „недачытанага, недапісанага, неадказанага". І тлела яшчэ надзея, што сэрца мо яшчэ ўсё-ж уздужэе ды дасьць змогу „недапісанае" давесьці да задуманага завяршэньня. Дома якраз ляжаў, чакаў майстэрскае рукі, чарнавы накід чароднага артыкулу для „Беларуса" „Горад Сьвятога Мэркурыя" — нарысу пра старавечнае места Беларусі Смаленск.

Сьмерць блізкога чалавека — балючая страта ды цяжкое гора для сям'і, для родных. Абарванае-ж у гады творчых яшчэ сілаў жыцьцё выдатнага пісьменьніка — страта вялікая для ўсіх ягоных суродзічаў, страта ўсяго народу, для абароны свабоды якога да апошніх дзён жыцьця ён аддаваў свой талент, свае сілы. Перадчасны адыход Юркі Віцьбіча з фронту вызвольнага змаганьня народаў зь ґенасыдным вялікадзяржаўем, страта вялікая й для ўсіх, хто ў гэтым змаганьні па боку ня гвалту, канцлягераў ды каляніяльнага рабства, але правоў ды свабоды і чалавека, і народаў.

Ды зь сьмерцяй пісьменьніка не паміраюць ягоныя творы. Ідэйная сіла творчае спадчыны мастакоў слова нязьнішчальная. Стагодзьдзямі палымнее яна зыркім агнём выказанае сьвятое народнае праўды.

Ня ў сілах ніхто з балонак гісторыі выкасаваць, зьнішчыць і мастацка-ідэйную спадчыну Юркі Віцьбіча, спадчыну, што насычаная як рэдка пачуцьцём любові да свае роднае зямлі, свайго народу, што паўстала ў змаганьні за яго свабоду, вырастала ў трывозе за яго сяньня, у турботе за яго заўтра. Яна тэстамэнт ідэйны й прыклад будучым пакаленьням, яна ўклад вечны ў скарбніцу беларускае літаратуры.

**А. Багровіч**

### ДАЛЕЙШЫЯ АХВЯРЫ НА ФОНД БЕЛАРУСКІХ ПАДРУЧНІКАЎ

Засноўнікі й кіравецтва Фонду Падручнікаў пры Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў ЗША дзякуюць др. Уладзімеру Набагезу за складзеную другі раз ахвяру ў вышыні 100 даляраў. Замест вянка на магілу пісьменьніка Юркі Віцьбіча 50 дал. на конта пераказала Управа БІНіМ. На коньце, разам з папярэднімі, 2,277.25 дал.

## ВЕРШЫ АТРЫМАНЫЯ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

### *З НОВЫМ ГОДАМ, СУРОДЗІЧЫ*

*З Новым Годам, Суродзічы,*
*Да Вас сэрцам ірвуся.*
*І мне хочацца сяньня, як жыць,*
*Сесьці разам з усімі за стол беларускі*
*І, як долю, супольна Куцьцю разьдзяліць.*
*Пажадаць Вам здароўя, удачы, дастатку,*
*Гэткай сілы гранітнай у час лютых нягод,*
*Дабрыні беларускай, цяпла з родных хатаў,*
*Што Вас вечарам гэтым чакаюць штогод.*
*Няхай слова ляціць, бо дарогі інакшай,*
*Каб сустрэць Вас хоць сьвятам, няма для мяне.*
*Вы галінкі, крывінкі, Вы костачкі нашы,*
*У далёкай, ужо роднай для Вас старане.*
*Усё-ж гнёзды старыя існуюць на сьвеце,*
*Ёсьць той бацькаўскі кут дарагі і сьвяты,*
*Дык ад нас ў Дзень Калядны вітаньні прымеце,*
*Няхай вольна Вам будзе і добра, Браты!*
*Сяньня белы марозік і зь ветрам гамонка*
*Хутка нашы дарогі пакрыюць сьнягі,*
*З Новым Годам, са Сьвятам, Браты і Сястронкі,*
*Род наш усюды раськіданы і дарагі.*

*1974 — 75*

### *ПРА ВАС, НАШЫ ДУМЫ*

*У сьнягох белапенных*
*Сяньня ўся Беларусь,*
*Жменю сьвежага сена*
*Пакладзе пад абрус.*

*І зьбярэ у застольлі*
*Ўсю сямейку, сыноў*
*І па некім застогне,*
*Хто за стол ня прышоў.*

*А у хаце гасьціннай*
*Скрозь ялінкавы пах,*
*Будуць сьлёзы-ўспаміны*
*І надзея ў вачах.*

*Будуць поўныя місы*
*Дабра з поля свайго,*
*Застанецца пакрысе*
*Нат жывёле ўсяго.*

*Гараць сьвечкі на дрэўцы,*
*Сьлёзаў капае воск*
*Па ўсіх тых, хто у сэрцы,*
*Хто калісьці тут рос.*

*Ня ўся ў зборы чалядка,*
*Сьвет шырокі ня дом . . .*
*Ціха, ціха калядкі*
*Паплывуць за сталом.*

*Дзе ня ёсьць Вы,*
*Каго адагнаў ліхі час*
*Ад стала і ад Маці,*
*Нашы сэрцы пры Вас.*

*Хто далёка у людзях*
*Свае ўспомніў куты,*
*Няхай добра Вам будзе*
*Ў гэты вечар сьвяты.*

*Вы ня лісьце апаўшае*
*На няласцы вятроў,*
*Вы ёсьць родныя, нашыя,*
*Наша цела і кроў.*

*Калі дзелім куцьцю мы*
*Ў гэты вечар сьвяты,*
*Дык пра Вас нашы думы,*
*Нашы сэрцы, Браты.*

*Долі, шчасьця жадаем,*
*Роўных, гладкіх дарог.*
*Што-ж, мы дзелім, што маем,*
*А далей, што дасьць Бог!*

*1974 — 75*

**Ад Рэдакцыі:** Прозьвішча аўтара вершаў, ведамае Рэдакцыі, із зразумелых прычынаў тут не падаецца.

